Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 80 (131). Вільня, Серада 2 Кастрычніка 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Аб найважнейшым.

Гутаркі аб новых выбарах да польскага Сойму і Сэнату ня сьціхаюць. Найбольш аб гэтым гавораць польскія газэты, якія падтрымоўваюць сучасны польскі ўрад марш. Пілсудскага. Сочачы за ходам гэтае гутаркі даецца прымеціць адно, вельмі цікавае зьявішча: польскі ўрад баіцца агульнага блёку нацыянальных меншасьцяў. І як кожны чалавек у часе роспачы, так і польскі дзяржаўны „чалавек" цешыць сябе тым, што хоць і ёсьць імкненьне да агульнага блёку, але-ж ёсьць і паважныя прычыны, якія станудь на перашкодзе стварэньня супольнага фронту нацыянальных меншасьцяў у часе выбараў.

Польская прэса на'т і пералічвае тыя прычыны і гэтакім парадкам дзеліць нацыянальны фронт непольскіх народаў на тры часткі. Яна гадаець, што павінна быць гэтак, як зарысоўваецца на палітычным небасхіле, а іменна: палянафільскія групы нацыянальных меншасьцяў (напр. Паўлюкевіч і Умястоўскі ў Беларусаў), увойдуць у блёк з польскімі партыямі адпаведнымі па „ідэалёгіі". Гэта будзе называцца—правіца. На лявіцы быццам будзе блёк сацыялістаў, а іменна: польскіх незалежных сацыялістаў, пэпээсаў-лявіцы і адпаведныя да іх групы нацыянальных меншасьцяў, як напрыклад беларуская група з „Нашай Працы" і г. д. Гэтакія, як правіцовыя так і лявіцовыя групірокі, як відаць, ня трывожаць польскі ўрад, бо хоць лявіца да сучаснага ўраду стаіць у апазыцыі, але-ж гэта нічога, бо ўсяроўна стаіць за цэласьць польскае дзяржавы.

Гэтакая думка сьтушоўвае страх і ў польскіх урадавых колах, бо, калі і запраўды, гэтак будзе, дык ясна, што агульнага блёку нацыянальных меншасьцяў ня будзе.

Польская прэса спадзяецца, што, пасьля гэтакіх камбінацыяў, той блёк, які безумоўна ўтворыцца, ня будзе мець сілы і ня зьявіцца дзейнікам, які мог-бы адбіцца на палітычным жыцьці ў Польшчы.

Рэч ясная, што без блёкаў справа ня можа абходзіцца: гэтага вымагае польскі выбарчы закон. Але-ж, калі і праўда, ды зьдзейсьніцца польская думка, дык ясна, што нацыянальныя меншасьці вельмі многа страцяць.

Выбары 1922 году паказалі, што тыя, якія найбольш крычалі аб вольнасьцях для нацыянальных меншасьцяў у часе выбараў, дык і найбольш пастараліся душыць гэтыя меншасьці ў Сойме. І ні ў якім выпадку не адступалі ад тых польскіх партыяў, якія адразу занімалі варожыя пазыцыі...

Падлізьніцкімі польскімі партыямі, якія месяцамі адурманілі Беларусаў у папярэдніх выбарах былі: Вызваленьне і Пэпээсы. Цяпер іх уплывы ўжо страціліся, Беларусы зразумелі іх абман, зразумелі, але позна, цяпер-жа іх ролю іграюць тыя-ж самыя па сутнасьці арганізацыі, толькі з прыбудоўкаю —лявіца. І вось, у гэтакую прыбудоўку, яны думаюць заманіць нацыянальных меншасьцяў.

Ці зьдзейсьняцца іх намеры—гадаць вельмі трудна. Наш беларускі народ у палітыцы яшчэ не практычны, дык магчыма, што калі знойдуцца павадыры, дык частку Беларусаў адпягнуць ад нацыянальнага фронту. Толькі хочацца верыць, што акрамя Паўлюкевіча і Умястоўскага, здэмаскаваных прадажнікаў, ніхто ня знойдзецца, каб, на яўную шкоду роднаму народу, стаў пад сьцяг якое-колечы польскае партыі.

Паляк, хоць і камуніст, ня то які іншы сацыяліст, больш сярые свайму народу, чым каму іншаму. Гэта ўжо сама прырода гэтак стварыла псыхіку чалавека, што ён кахае сябе самога і тое, што зьяўляецца яму родным,.. а ўсё іншае стараецца выкарыстаць на карысьць сабе і таму, што для яго бліжэй і мілей...

Беларускі Сялянскі Саюз, стоячы на грунце незалежніцкім, на грунце нацыянальнай і сацыяльнай абароны інтарэсаў беларускіх працоўных гушчаў, лічыць, што толькі блёкам беларускіх партыяў можна перамагчы на фронце палітычнай барацьбы.

Чаму-ж гэта так? А вось чаму. „Кур'ер Віленскі" ад 1-га лістападу пішучы аб беларускім школьніцтве зазначае, што Палякі ня лічыліся з Беларусамі дзеля таго, што не ўважалі іх за народ, а дзеля гэтага думалі, што ўсіх Беларусаў лёгка і скора здолаюць утапіць у польскім нацыянальным моры. І вось, калі мы і далей будзем барышкаваць і шукаць з польскімі партыямі, дык і далей нас будуць лічыць за гной, прыдатны для польскага поля.

Вось чаму мы і напісалі ў папярэднім нумары прапанову аб нацыянальным беларускім блёку і спадзяёмся, што грамадзянства прыхіліцца да нашага голасу і падтрымае нашую ратунковую акцыю.

—тун.

## ВОКАМ ПА СЬВЕЦЕ.

Дык вось знача, Польшча і Саветы, як дзьве суседнія дзяржавы імкнуцца отварыць дагавор, якім жадаюць навекі-вечныя замацаваць тую мяжу, якая шэсьць гадоў таму назад перарэзала жывое цела Беларускага Народу. Аб гэтым замацаваньні афіцыяльна вяліся перагаворы ў Маскве вясною, перарваныя з прычыны забойства Войкава, аб гэтакім замацаваньні зьбіраюцца гаварыць нашыя гаспадары ізноў. І як заявілі: новы савецкі пасол у Варшаве і польскі ў Маскве, што для перагавораў аб гваранты сучасных дзяржаўных межаў няма ніякіх перашкодаў; быццам гэтая справа стаіць на **добрым шляху.** Ня трэба спрачацца, што праўда, справа стаіць на добрым шляху, але каму гэты шлях добры? Зараз разгледзім. Перадусім мушу сказаць, што дабро гэтае не для нас і вось чаму!... Ясна, што гварантуючы непарушальнасьць сучаснае мяжы, нашыя гаспадары гэтым самым загварантуюць той стан рэчаў і той дабрабыт, у якім мы знаходзімся цяпер. Дык і ня робячы вываду, кожны Беларус зразумее, што загварантаванае нам дабро—ліхам называецца...

Рэч зразумелая, што дабро астанеецца на долю Саветам і Польшчы, але з крыўдаю для нас.

У папярэднім нашым аглядзе зазначалася, што падыходзячы да гварантыйных перагавораў ніхто не ўспамянуў аб Беларусах, хоць тая крэпасьць, якую думаюць будаваць — Саветы і Польшча знаходзіцца на абшары Беларусі.

Гэта поўная ігнарацыя, выразнае жаданьне напоўніць свае дзюбы нашым беларускім целам. І вось дзіўна!... Мы пад Польшчаю, гэта-ж не сэкрэт, ня маем ніякіх палітычных правоў, мы ня можам нічога зрабіць, каб лёс свой пакіраваць гэтак, як належыцца: наша доля ў нядолі... але-ж чаму-ж там, дзе, нібы існуе беларуская дзяржава, чаму там ціха, як у валовым вуху? Мы прывыклі лічыць, што ў рамках Савецкага Саюзу, паўстаўшага на развалінах старое царскае камашні—Расеі, існуе беларуская дзяржавы, а дзеля гэтага, кожны раз, калі паднімаецца гутарка, аб гваранцыі—мы думаем, што гаварыць будзе ўрад з Менску... Але-ж на вялікі жаль, нашы думкі астаюцца фантастычнымі лятункамі, а запраўднасьць курсуе між Варшаваю і Масквою цераз галовы ня толькі нашыя ў Заходняй, але-ж і цераз галовы Чарвяковых, якія быццам прадстаўляюць дзяржаву створаную з Усходняй Беларусі.

Вось гэтакія праявы адносін паміж Саветамі і Польшчаю і Беларусамі, наводзяць на думкі, што як тут, так і там беларускага ўраду няма. Бо чаму-ж ён не падае свайго голасу тагды, калі гэта зьяўляецца патрэбным і неабходным. Чаму-ж Масква, а ня Менск гаворыць з Варшаваю аб дзяржаўнай мяжы?

Пішам мы гэта дзеля таго, каб заявіць аб нашым існеньні нашым гаспадаром і асьвятліць жорсткую будучыну, якую яны нам гатуюць. Мы ведаем, што гэтым мы нікога не запужаем, але-ж спадзяёмся, што кожны Беларус возьме гэтую справу пад развагу і зробіць адпаведныя вывады.

Гаворачы аб адносінах нашых гаспадароў да нас ня прапусьцім маманту выказаць і нашыя адносіны да іх.

Мы памятаем дывэрсыйныя банды, некалькі разовыя масавыя арышты і амаль-што, штодзенныя ліквідацыі цэнтральных камітэтаў у Заходняй Беларусі, якія быццам дзеюць на шкоду полькае дзяржавы. А ставячы пытаньне, што гэта?—адкажам:—гэта вынікі беларускай нацыянальнай працы.

Мы ведаем аб тым, што адбываюцца суды ў Менску над контр-рэвалюцыянерамі, мы ведаем аб тым, што нядаўна старшыня менскаго чэка нашоў свой канец пад адкосам чугункі... І на пытаньне, што гэта?—адкажам: гэта—праявы беларускай нацыянальнай працы. Праца, якая ў форме барацьбы і змаганьня творыць сваю новую будучыну. Нашыя-ж гаспадары не разумеюць гэтага, а дзеля гэтага заместа таго, каб пакіраваць свае сілы на паправу дабрабыту сваіх народаў, кіруюць іх на змаганьне з бела-

## З беларускага жыцьця у Латвіі.

### Пяцігодзьдзе літэратурнай працы П. Сакала.

6-га лістапада с. г. беларускія колы Латвіі спраўляюць сьвята. Праўда, сьвята гэтае адбудзецца вельмі скромна, але прычына гэтага сьвяткаваньня—варта таго, каб яе адзначыць.

Пяць гадоў таму назад, на зары беларускага адраджэньня ў Латвіі, пачаў сваю літэратурную працу малады 17-ці гадовы паэта—Пятро Масальскі. Скромна пачаў ён. Спачатку друкаваўся ў вучнёўскай шапіраграфаванай часопісі Люцынскае Беларускае гімназіі „Ластаўка". Праз год — у зборніку лепшых твораў вучняў гэтае гімназіі — ён ужо займае першае мейсца. Пазьней друкаваўся ў рыскіх беларускіх выданьнях („Голас Беларуса", „Першы Крок"), пасьля пачаў друкавацца і за межамі.

Крытыка спаткала творы маладога здольнага паэты вельмі прыхільна (гл. напр. часопісь „Крывіч" — Коўна, 1925 г. № 9(1), стар. 109), што прыдало яму яшчэ больш энэргіі і веры ў свае сілы. Зараз малады пясьняр мае падрыхтаваным да друку зборнік сваіх вершаў „На сьвітаньні". На жаль, адсутнасьць сродкаў перашкаджае П. Масальскаму прыступіць да выданьня.

Творчасьць П. Массальскага, выхаванага на беларускім адраджэнскім руху, яскрава адбіваець у сабе чорныя і сьветлыя бакі беларускага адраджэнскага жыцьця ў Латвіі, а таму яна цікава ня толькі для латвійскіх Беларусаў, але і для замежных. Творы яго,—пераважна лірыка, поўная глыбокай шчырасьці і мастацтва. Пісаў ён пад псэўдонімамі „Пятро Сакол" і „Пятрусь". Прыходзіцца шкадаваць, што малады паэта, які цяпер зьвязаны вучыцельскай пасадай у дзьвінскай беларускай пачаткавай школе, мала можа ўдзяляць часу пясьнярству.

Скромная ўрачыстасьць юбілею адбудзецца ў сьценах Дзьвінскай Беларускай Гімназіі (Daugavpili, Varšavas iela, 16). Малады юбіляр выступіць з рэфэратам на тэму „Пачатак і разьвіцьцё беларускага пясьнярства ў Латвіі", а пасьля прачытае шэрэг сваіх твораў.

м. Дзьвінск. К.



## Я вольны сын неба.

Я вольны сын неба! Сакол я свабодны!
Мне цяжкіх зялезных ланцугоў ня трэба.
Хоць я і радзіўся з нядолі народнай, —
Сакол я свабодны! Я вольны сын неба!

* * *

Я веру ў свабоду! Я веру у шчасьце!
Жадаю яго я сваёму народу.
Ня век панаваць будзе намі няшчасьце, —
Я веру у шчасьце! Я веру ў свабоду!

* * *

Дарогу мне к сонцу! Дарогу к свабодзе!
Стучыцца ўжо шчасьце к маёму ваконцу.
Лячу абуджаць я надзею ў народзе, —
Дарогу к свабодзе! Дарогу мне к сонцу!

Пятро Сакол.

20.I.23. Люцын.

## Хмаркі.

Раскідаліcь ў небе страусавы пёры, —
Пышныя убёры вабючых нябёс.
Я люблю вас — неба пышныя убёры,
Страусавы пёры — і ваш думны лёс.

* * *

Радуецца неба вечнага бяздоньня:
Вас ў сваё улоньне захапіў блакіт.
Я хачу вас вырваць з нёбнага бяздоньня, —
Ўаяць у сваё ўлоньне белы аксаміт.

* * *

I сплятаць з вас, мілых, прызрастыя мары, —
Ўліць хмяльныя чары ў сумату душы,
Выпіць без астатку прызрастыя чары,
I бяз часу крозіць ў красачнай цішы.

Пятрусь.

8.VIII.26. Царскі Лес пад Рыгай.



## Жыдоўская прэса аб Бел. Народным Тэатры.

З прычыны выступленьня ў Вільні дня 23 кастрычніка Бел. Нар. Тэатру жыдоўская газэта „Тог" зьмясьціла наступны артыкул:

Куток беларускасьці.

На гэным тыдні быў я на беларускім спэктаклі.

Беларускі Народны Тэатр Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ставіў народную п'есу Купалы „Паўлінка" са сьпевамі і танцамі. Пасьля хор — каторы выканаў народныя песьні. Народ і народ. Я чуў сябе так добра, быццам быў на жыдоўскай вечарыне. З усіх куткоў адчуваўся пах сьвежай зямлі, плады сьвежай культуры, каторыя прабіваюцца з чорнай мужыцкай зямлі. Чулася шмат наіўнасьці як у выкананьні п'есы так і сярод публікі. Бадзёрасьць і прымітыўчасьць. Малады народ, як маладое дзіця. Можа быць што гэта справа стаіць зусім іначай. Можа быць, што беларуская культура ўжо даўно выйшла з сваей прымітыўнасьці і змагаецца цяпер за новыя формы нацыянальнага жыцьця. Можа я і мыляюся—мы за мала знаем нашых суседзяў, з каторымі мы дзелім пакуль што гора, але з каторым мы спадзяёмся дзяліць і радасьць. Але для пастароньняга глядзельніка, перш-на-перш выўляецца моладасьць толькі што разбуджанага народу.

І калі нават „куток беларускасьці" так яскрава выяўлены ў п'есе Купалы не здаволіць смак тых людзей, якія ў гэтых выпадках вельмі перабіраюць, усё-ж такі мы разумеем, што гэта штука ўзята з жыцьця народу, што тут адбіваецца душа беларускае масы, каторая знаходзіцца ў барацьбе за родную культуру, родную мову, родную школу, роднае гаспадарства—поўны камплект народнай культуры.

Усё гэта нас цікавіла, нават захоплівала.

Навінай была мова. Гэта „простая" мова зьвінела з вуснаў артыстаў ня горш „літэратурнай" мовы. Навінай быў этнаграфічны жанр. Навінай былі танцы і сьпевы. Асаблівую сымпатыю да ўсяе гэтае штукі, мы яшчэ чулі вось чаму: гледзячы на бедную сцэну народнага тэатру, каторая знайшла мейсца ў клюбе гандлёвым, на маладых хлопцаў і дзяўчат (сярод іх адна Жыдоўка п. Залкінд), каторыя падымаюць з такой любоўю і вернасьцю закінутыя нацыянальныя багацьці народу, каторы прыймае іх з такой радасьцю—гледзючы на ўсё гэта, мы ўбачылі ў іх нашых братоў, з каторымі мы ідзём па адным шляху змаганьня—і з якімі—мы спадзяёмся—перамогі.

*Усіх падпішчыкаў просім прыслаць належныя за газэту грошы. Хто ня прышлець падпіскі, таму будзе спынена пасылка газэты.*

Лепш зрабіць усё самому, —
Так надзейней, спакайней
Але як? Вось дзе загвоздка!
Асьцярога трэба, спрыт...
Ну, ты, Шлёма! ну, псякостка,
Ашуканец, жываглыт.
Але як-бы ні было там,
Ён паставіць на сваім,
Ён пралезе хоць-бы кротам,
Бо пад Шлёмавым тут ботам
Ён ня хоча быць зусім.
Ходзіць хлопец, выглядае,
Вухам ловіць кожны крок;
Цягне хлопца шафа тая,
Што замкнёна пад замок.
Ён прыслухаўся — нікога!
Ён у той пакой бягом!
Сэрца стукае ў малога,
А ў вушах гудзе, як гром.
Ён паслухаў — ціха ўсюды
Нібы вымерла карчма;
На дварэ дзесь Шлёма руды,
Хавы так-жа тут няма.
Да дзьвярэй ён крок ступае,
Ён нямее, прыліпае
І скрозь шчылінку ў замок
Той пакойчык аглядае...
Стукнуў хтось—ён раптам скок!
Прытуліўся ў кут, у цёмны,
Дух стаіўшы ні мур-мур!
Скуль-жа стук той патаёмны?
Ці прабег дзе проста шчур?
Да дзьвярэй ён проста шыбуе,
Міг адзін, і клямка—бразь!
А скрозь цішу грабавую
Хтось крычыць яму: „Ня лазь!"
Але хлопец не зважае,
Ён да шафы—пад замком!
Стукнуў злёгка кулаком,
Стук на сьмерць яго пужае,
А на стук той скрыпка—бом!
Струны ціха зазьвінелі,
Аглянуліся яны,
Бы агонь прабег па целе,
Трэпет палкі і дзіўны.
Так вось дзе яе няволя!
Але йдуць... Ен вобцас вон!
З карчмы выскачыў на поле,
А ў вушох — той струнны звон.
І сьвідруе мозг пытаньне:
Ці замецілі, ці не?
Момант страху і хістаньня
Хлопца томіць, хлопца гне.
Ен на карчму пазірае,
Каб пытаньню даць адказ,
А яна маўчыць, старая,
Пэўны маючы выраз.
Не: там ціха, мёртва-глуха,
Там нічога нячутно.
Толькі Шлёма ў нейкім руху...
Што-б то значыла яно?
Вышаў хлопец за стадолу.
Дзень надвечары. Цяплынь,
А на полі па-над долам
Жыта гойдаецца плынь;
Там дарога так знаёма.
Унь і дуб той і той клён...
Ён стаіўся нерухома:
Да стадолы ідзе Шлёма,
Невясёлы, смутны ён.
Ходзіць, чухае чупрыну,
Штось мармоча, бы дурны,
Штось сказаў Абраму-сыну
І кудысь ідуць яны.
Пастаялі на дарозе,
Шлёма зноў ідзе назад;
Хава, хлопцы ўсе ў трывозе...
Ці-ж то ён іх зрушыў лад?
Ці ня знаюць, што ў каморцы
Быў ён з замерам ліхім?
Але чуе ў іх гаворцы
Словы: „Ганаф" і „Яхім".
Пачынае хлопец цяміць:
Зьнік Яхім кудысь з канём.
Асьвятлілі яму памяць
Тыя словы, як агнём:
„Я, брат, знаю, што мне трэба,
У мяне ёсьць пэўны плян:
Я вазьму кусішча хлеба,
А ня зношаны каптан,
Толькі ўскіну я вачыма,
Мой і погляд зробіць сьлед;
Ты пачуеш пра Яхіма,
І сам родзішся на сьвет!"
Так, прышла яго часіна, —
Ім цяпер не да яго!
Але трусіцца хлапчына,
Каб ня вынікла чаго,
Абыходзіць ён стадолу,
Ідзе ў кухню са двара,
Погляд кідае наўкола,
Бачыць — постаць карчмара,
Аглядае ўсё дарогу,
А з ім Хаім і Абрам.
Самы час праравць аблогу —
Толькі рабін адзін там.
Ён падосак бярэ ў рукі,
Каб з тым справіцца замком;
Ідзе ціха, а ні гуку,
Бы кот, крадзецца цішком.
Стаў, паслухаў — мёртва-глуха.
Дзьверы штурхнуў, шусь туды;
Прылажыў яшчэ раз вуха,
Поўны страху і жуды, —
Ціха ўсё. А рабін строгі
Са сьцяны глядзіць стражэй...
Ці то вушы, ці то рогі?
Бровы ссунуты ніжэй,
Погляд злосны і нямілы.
Тут да шафы хлопец — скок!
Штурхнуў дзьверы з усёй сілы, —
Бразь там зашчапка-кручок!
Разышліся дзьверцы самі,
Чуе ён знаёмы гуд...
Скрыпка родная! ты тут!
Ён дрыготнымі рукамі
Скінуў з вешалкі сурдут,
Скрыпку борзьдзенька зьнімае.
Скрыпка з ім! Цяпер — гайда!
Ен скрыпулю абнімае...
— У, ты, рабін-барада!—
Крок ступіў і на канапу!
Кулаком яму патрос.
— У, ты, носаль! У, ты храпа! —
І дзьве пстрычкі даў у нос!

V.

Страшнавата, сьцішна ўночы...
Нібы ходзіць хтось, шалпоча,
Пустым сьмехам дзесь рагоча...
Ці то можа плача Шлёма —
Ня ўсё добра ў яго дома!
А там нешта бы рухома...
Ці то вочы, тыя вочы?
Страшнавата, сьцішна ўночы!
Ноч так зманна, так варожа!
Спатайка наскочыць можа
Нехта страшны з свайго ложа...
А там... што там? двое, трое, —
Клубок страхаў, там іх рої,
І ня зьлічыш ты іх зброі,
Многа іх! Ён іх ня зможа:
Ноч так зманна, так варожа!
Хоць-бы месяц выплыў з хмары:
Асьвятліў-бы ён абшары
І разьвеяў тыя чары.

(Далей будзе.)

